УДК 821.161.3-1
ББК 84(4Беи)-5
Б46

Асаблівую ўдзячнасць аўтар выказвае за падтрымку і спонсарскую дапамогу Жабінкаўскаму аддзяленню Беларускага фонду міру (старшыня Л. І. Ярмашук).

**Бензярук, Р. М.**
Б46 Азбука наадварот: гумар і сатыра / Расціслаў Бензярук. - Брэст: Альтернатива, 2008. - 60 с.

ISBN 978-985-521-015-4.

Байкі, вершы, пародыі, скорагаворкі, эпіграмы складаюць незвычайную, вясёлую азбуку, прапанаваную пісьменнікам Расціславам Бензеруком, які жыве ў прыгожым горадзе Жабінка. У другой частцы кнігі чытач пазнаёміцца са сцэнічным вершаваным жартам "Роднасныя душы", які могуць выкарыстаць у сваіх выступленнях удзельнікі мастацкай самадзейнасці.

**ББК 821.161.3-1**
**УДК 84(4Беи)-5**

**ISBN 978-985-521-015-4**

## ПАД ПІЛЬНЫМ НАГЛЯДАМ ДЗЕДА КАНДРАТА

Я не магу пахваліцца, што давялося мне сустракацца з народным пісьменнікам Беларусі, лаўрэатам Дзяржаўных прэмій Кандратам Крапівой, гутарыць з ім. Хаця аднойчы выпала бачыць яго, так бы мовіць, “жыўцом”. Было гэта ў лістападзе 1969 года, калі нас, маладых літаратараў, прывезлі на пленум Саюза пісьменнікаў БССР.

Кандрат Кандратавіч сядзеў у прэзідыуме поруч з такімі волатамі беларускай літаратуры, як Пятрусь Броўка, Міхась Лынькоў, Васіль Быкаў, Пімен Панчанка... Быў ён вельмі сур’ёзны, як бы заняты нечым сваім, і вельмі важным.

Не мог тады я нават дапусціць думку, што выпадзе нам “сустракацца” на газетных і часопісных старонках. І адбудзецца гэта вельмі скора - ужо ў лютым 1971 года. Напісаўшы першую гумарэску “Я змяніў прозвішча”, паслаў яе ў “Вожык”. Часопіс тады выходзіў двойчы ў месяц. У нумары 4, якраз у пярэдадзень 75-годдзя Крапівы, яна з’явілася ў друку.

На гэтай жа старонцы быў змешчаны і сяброўскі шарж на вядомага сатырыка. Кандрат Кандратавіч уважліва, як бы з запытаннем, а ці хопіць у вас, хлопцы, пораху быць гумарыстамі, глядзеў на творы маладых, хто стараўся прымусіць рассмяяцца чытача.

Да наступнага яго юбілею нам выпала зноў быць на адной старонцы ў газеце "Піянер Беларусі". Зверху - добрае слова пра Крапіву і дзве байкі, а ніжэй - маё апавяданне “Марынін хлеб”.

У 1986 годзе адзначаліся 90-ыя ўгодкі Кандрата Крапівы. У трэцім нумары “Бярозкі” былі змешчаны яго лепшыя байкі, а таксама юбілейнае эсэ Івана Навуменкі. Тут жа і мая аповесць “Цвёрды арэшак”. Потым нам удавалася “бачыцца” ў чытанках для малодшых школьнікаў, у кнігах “Вясёлка”, што выпускаліся да юбілею часопіса.

“Э!-памахаў пальцам Дасціпны Чытач. - Гэта, мусіць, не сустрэчы, а выпадковае супадзенне...” - “Можа быць,-не стаў спрачацца я. - Але ж калі друкуешся на адной старонцы з вядомым сатырыкам, дык і сам цягнешся да той “планкі”, што падымае класік...”

***9 верасня 2008 г.*** ***Аўтар***



## ЯЎГЕНІЯ - У ГЕНІЯ

\- Жыву я ў генія!" -
Казала Яўгенія -
Прыгажуня, модніца,
Хатняя работніца.
Ад святла і да цямна
Хутка і старанна
Працавала яна
У музыкі Яна.

## ЯКАЎ, ЯРАСЛАЎ, ЯКУБ...

### *Скорагаворкі*

Бачыў Якаў
Дзесяць якаў.
Не хвалько быў -
І не якаў.

Яраслаў у Яраслаўлі
За старанне ў ліку слаўных.

Біў у грудзі наш Якуб
І хваліўся ўсім: "Я - куб!"
Адказаў яму Кандрат:
"Ты не куб і не квадрат!"

Янька -
Нянька
Ванькі-ўстанькі.

"Яначка-Янка -
Трэснутая шклянка!
Вось табе дражнілка..." -
Смяяўся Данілка.

## ЯК

“Як завуць?” - спыталі ў яка.
“Як!” - прамовіў небарака.
Тыгр не ўцяміць аніяк,
Ці, папраўдзе, гэта як.
Ліска хітрая маргне;
“Можа, як? А можа - не?!”
Апалчыліся звяры:
“Як завешся, гавары!”
Як яму было не плакаць:
Змусілі разоў сто якаць?!

## ЯБЛЫК

Яблык ад яблыні блізка ўпадзе.
Янка да Ядзі штовечар ідзе.
Мае Ядвіся і прымхі, і гонар.
Людзі прарочаць, што Янку прагоніць.
Той пасміхаецца: “На кожную Ядзю
Можна, як хочаш, знайсці супрацьяддзе!..”
Яблык вялікі, сакоўны, духмяны
Ён кожны вечар прыносіць каханай.
Гожы - і смаку яго не забудзеш!
Баюць бабулькі: “Вяселлейка будзе!..”




## ЮЛЯ ЦІ ЮЛА?

Наша Юля, як юла,
Не ўсядзіць на месцы:
Тут была і там была
Мо разоў па дзвесце.
Можа, трыста ці пяцьсот?
Хто лічыў, скажыце.

Калі хочаце рэкорд,
З Юлькай пабяжыце.
Скача ў лузе і ў лазе.
Кажа ёй бабуля:
“Вечна на адной назе -
Ты юла ці Юля?!” -
“Э, не трэба, баба Уля,
Зваць юлой - я ваша Юля!”

## ЮБІЛЕІ

Людзі маюць прывілею:
Сустракаюць юбілеі,
Каб пад чарку ці пад грошы
Зноў пачуць, які харошы,
Што дабіўся сам нямала -
Ёсць і сала, і да сала.
Ды не толькі ўспомняць ежу,
А машыну і катэджы,
Слаўных дзетак дый унукаў,
Што прабраліся ў навуку.
Жыць яшчэ не менш паўвеку
Наваражаць чалавеку...
У жыцці, як прывілеі,
Нам даюцца юбілеі.



## ЭПІГРАМА

Што ў нас было гадоў за дзвесце,
А што - за трыста дваццаць пяць,
Раскажа ўсё дакладна, к месцу...
І трэба ж у гісторыю залезці,
Што толькі вушы ўжо тырчаць.

# ШТАНЫ Ў ХАЦЕ



***Байка***

Клім на вяселлі перабраў.
Яго дамоў цягнула жонка.
То носам вуліцы араў,
То песні гарлапаніў звонка,
А дома кінуў жонцы неспадзеўкі:
'Ану, пайшлі на дзеўкі!"
Прылашчылася: "Клімушка, мой лавелас,
Да дзевак пойдзем у наступны раз!.."
І праўда, у наступны раз
Клім, быццам верхалаз,
Цераз балкон прабраўся да суседкі,
А там якраз -
І муж, і дзеткі.
Клім, атрымаўшы адваротаў паварот,
Дамоў прыцёгся, як пабіты кот.
А жонка і лячыла, і ласкала...
"Ён што, спявак з "Ла Скала",
Што цацкаешся з ім? - спытаўся брат Пятро. -
Падонак - вось ён хто! Я зразумеў нутром
Не робіць, а гуляе, п'е
Ды, можа, у дадатак - б'е?" -
"Усякае бывае, браце,
Ды трэба, каб штаны былі ў хаце!.."
Пятро згубіў аж мовы дар:
Наіўна верыў ён, што хаце трэба гаспадар.
Пасля падумаў: мо таму
Ад жонкі дастаецца так яму,
Што на рабоце дзень пры дні,
Што ж да чужых жанок - дык Божа барані,
Не выпіў аніколі без прычыны?..

Мы расчаруем тых, на жаль,
Хто ў байцы пра штаны вышуквае мараль
І логіку ў паводзінах жанчыны.



## ЧЫСТАПЛЮЙ

Мой сусед інтэлігентны.
Чыстаплюй, о Божа мой!
Што ні баба, то паненка
І не скажа слова “гной".

## ЧУЖЫЯ СЛОВЫ

Канстытуцыя.
Прызентацыя.
Прастытуцыя.
Каранацыя.
Камунізм.
Менталітэт.
Плюралізм.
Аўтарытэт.
Дзе народныя высновы?
Ці часы благія,
Што пралезлі ў нашу мову
Выразы чужыя?
Што дасталася па праву,
Нішчым без упынку
І гісторыю, і славу,
Словы-залацінкі...

## ЧОРТАПАЛОХ

### *Байка*

На скрыжаванні палявых дарог
Узрос, адцвіў Чортапалох.
На славу
Ён знайшоў
Сабе забаву,
Бо, хто ні ехаў, ні ішоў,

Чапляўся да адзення, ног.
“Сказаць табе я мушу, -
Не выцерпела Груша, -
Хоць ад мяне карысці болей,
І то чапляцца да людзей я не дазволю,
А ты?..” - “Дадай яшчэ: як мог?! -
Зарагатаў Чортапалох. -
Дык у людзей заўсёды: хто нахабны,
Той цягне прагна...”
Зашалясцела Груша: “Годзе!
Нашто нядобра кажаш аб народзе?” -
“Павер мне, Груша, ад сябе
Ніхто ніколі не грабе!..”

Што ж, кожны цэніць па сабе.

## ЧАЙНІК

“Я не чайнік,
А начальнік! -
Закіпаючы, крычаў,
Пырскаў парай. -
Хто мне пара?!
Я адзін гатую чай!
Каб навекі
Шпалы, рэйкі,
Я тады б усіх павёз
Цераз горы,
Цераз рэкі,
Як сапраўдны паравоз”.
“Сціхні крышку!” -
Чашкі, лыжкі
Папрасілі. Замаўчаў.
Дзеці селі,
Ўсё паелі,
А хвалілі дружна чай.



## ЦЫГАНСКІ КОНЬ

*Дзеду Юстыну Пратасюку*

Кірмаш галёкае, рагоча:
Звычайны тлум і таўкатня...
Конь добры дзеду ўлез у вочы,
Яму другія - не раўня.
“Я бачу, дзядзька вельмі хоча
Купіць вось гэтага каня? -

Пытаецца цыган. Па часці
Усё прадаць яму з рукі. -
Не конь, скажу табе, а шчасце!
Сам бачыш: прыгажун які!
Якая шыя! Шэрай масці
І ў белых яблыках бакі...”

Цыган пацвельвае, зараза.
Дзе праўда тут, а дзе мана?
Чаму ён столькі зняў адразу,
Што невысокая цана?
Не атрымаўшы дзед адказу,
Купіць не хоча ў цыгана.

“Шукаеш, дзядзька, скрозь падману?
Скажы, чым гэты конь не люб.
Як выйдзе ў поле з плугам рана,
Дык залюбуецца ўвесь люд.
Наконт заганы? Ёсць загана:
Не любіць лазіць конь на дуб!

А так - сілач. Звязе на горку,
З гразюкі выцягне на тракт...” -
“Прабач, але я не ваверку
Хачу ў цябе купіць, дзівак!" -
“Ну, дык аб чым тады гаворка?..”
(Цыган у гутарцы - мастак!)

І па руках. Як з родным братам,
Стары расстаўся з цыганом.
Шчаслівы, едзе ён дахаты,
Наперадзе бялее дом.
Але бліжэй - раўчук з цыбатым
Драўляным дзедавым мастком.

Дайшоў да моста - конь ні з месца...
"Вы пустазвоны - не народ,
Каб на зямлі было вам цесна!" -
Кляў дзед увесь цыганскі род.
Ён тузаў, нукаў і, нарэшце,
Паехаў на бліжэйшы брод...

## ЦІКАЎНЫ ВЕЧАР

Цікаўны вечар-дабрадзей
Абняў, ахутаў хаты,
Глядзіць у вокны на людзей,
Хто сёння чым заняты.
Хто блузку шые, хто прадзе,
А хто чытае казкі,
Дзе сварка-лаянка гудзе,
А дзе спакой і ласка.
Не хоча кінуць ён двара
І варты гэтай мілай,
Пакуль аж ноч - яго сястра -
Спаць не загоніць сілай.

## ХВАЛЯ, ХВІЛЯ І ХВАЛЕЙ




Чытаю нёманскія хвалі,
зямлі дзядоў маіх скрыжалі.

*Яўген Хвалей.*

Кнігі тоўстыя чыталі,
Як экзамены здавалі,

А цяпер не варта нукаць:
Мы ж закончылі навуку.
Я чытаю ў Нёмне хвалі,

Поле продкаў, як скрыжалі.
Што ж да кніжак, не схлушу,
Вам паболей напішу,
Бо падаў свой зычны голас
З той зямлі, дзе жыў сам Колас,
І адношуся к эліце,
Дык Хвалея ўсе хваліце!
“Хваля”, “хвіля” ды “Хвалей” -
Слоў не ведаю мілей!

## ХАМСКІ ПАДЛІК

***(Паводле Андрэя Унукава)***

Змалку Хам паспеў дазнацца
Дзесяць слоў -
І ўсе пра маці.
Хам любіў іх паўтараць:
“Раз... два... тры... чатыры... пяць...”
І яшчэ да іх “падвесіць”:
“Шэсць-сем-восем-дзевяць-дзесяць!”

Выдалі, аднак, Указ -
Гэта раз.
Забалела галава -
Гэта два,
Бо за маты могуць даць
Раз... два... тры... чатыры... пяць...
А да іх яшчэ “падвесіць”:
Шэсць, сем, восем, дзевяць, дзесяць
Сутак, месяцаў, гадоў.
Скажаш слова - і гатоў!

Хам не можа нас паслаць:
“Раз-два-тры-чатыры-пяць!”
На сцяну ад злосці лезе:
“Шэсць… сем… восем… дзевяць… дзесяць…”
Але дома, у кватэры,
Без усякіх “тры-чатыры",
Без усякіх “сем” і “восем”
Скажа так, што шчыпне ў носе.
Языком нястрымна плешча,
Як гаворыць часам з цёшчай.

Хам цяпер - хамелеон:
Дзе крыць матам, знае ён.
За закрытымі дзвярмі
Як умееш, так хамі.
Мы пакуль што ў сем'ях пас -
Гэта раз.
Хам тут вечна галава -
Гэта два.
Трэцяе: і жонка з мамай
Берагуць, як могуць, Хама.
Нават дзеці дый унукі
Возьмуць Хама на парукі…

А таму
У многіх хатах
Падрастаюць хамяняты.
Раз… два… тры… чатыры… пяць…
Шэсць… сем… восем… дзевяць… дзесяць…
Каб злічыць вам хамянят,
Не ўкладзецеся і ў месяц.
Злосць бярэ, яе не змесціць
Галава. Хачу сказаць:
“Шэсць-сем-восем-дзевяць-дзесяць-
Раз-два-тры-чатыры-пяць!”
Ды маўчу… маўчу пры вас,
Калі дзейнічае Ўказ.



## ФУТРА І ПЕРНІК

Мой сапернік
Не Капернік,
А сусед Даніла.
Шакаладку,
Дзіўны пернік
Дорыць ён Людміле.

Лета, восень -
Кветкі носіць,
Весела смяецца
І мяне
Пакіне з носам
Мой сусед, здаецца.

- Ці ж Мікіта
Лыкам шыты? -
Разважаю мудра. -
Я асілю
І Данілу,
Як куплю ёй футра...

Бо не верыў:
Люда верне
Футра, лак і пудру,
Пасмяецца:
-Данеў пернік
Даражэй за футра!..

Шэпчуць людзі:
- Вэлюм будзе
Да твару Людміле!
- А чаму
Скажыце, людзі,
Стаў мне свет нямілы?..

## ФАНТАЗЁРКА

- Што за цуды?! Што за цуды! -
Пляснула рукамі Люда. -
Бегемот пабіў вярблюда,
А вярблюд сустрэў авечку...
- Фантазіруеш ты вечна! -
Кажа мама. - Зноў асечка!
Пакажы, дзе бегемот!
- Між дрыгвяністых балот
Разяўляе гучна рот.
- А вярблюд? Вярблюд двухгорбы?
- Ён, накінуўшы тры торбы,
У пустыню рушыў горда.
- Ну, авечку нехта з'еў -
Можа, воўк, а можа, леў?
- Не, яна пабегла ў хлеў...

Фантазёрка наша Люда:
Любіць размаўляць пра цуды...
З бегемотам і вярблюдам.



## УСПАМІН

Разгульваў вецер-лістабой,
Як мы сустрэліся з табой.
- Скажы, ці будзем разам мы?
- О, пачакай хоць да зімы!..
Прыйшла сцюдзёная зіма,
А зладу не было й няма.
Я думаў: "Можа, па вясне
Ты радасна ўсміхнешся мне?.."
Калі ж вясна зайграла гімн,
Ты пад вянец пайшла з другім.
А я адзін, зусім адзін:
Са мной - бязрадасны ўспамін.

## УНУК

Што такое? Стук ды грук!
З вуліцы вярнуўся ўнук.
Нібы ў дом прыйшла навала:
Рэчы кінуў як папала!
Кед адзін каля парога
Загароджвае дарогу.
А другі, парваны, кед
Заляцеў аж на буфет.
Цацкі “бегаюць” па хаце
(Іх штодзень збірае маці).
Але сёння баба Ната
Кажа ўнуку хітравата:
- Віцька, трошкі падрасцеш,
Калі сам усё збярэш!..
Ён сабраў, прысеў, заціх:
Вельмі хоча падрасці!




## ТЭАРЭМА

***Байка***

Сяджу, запісваю: “Дано:
Палез дзядуля праз акно.
Трэба будзе даказаць,
Як ён вылезе назад”.
Дапускаю: тут прычына,
Закахаўшыся ў жанчыну,
Дзед Мікіта выбраў ранне
Для прызнання
У каханні.
Калі так, дальбог, без кветак
Не палез бы да кабеты...
Дапускаю: дзед быў ласы
На суседскія каўбасы.
Як расказваў сябруку:

Цап бабуля за руку,
Але ён - не лыкам шыты:
Тут змікіціў
Дзед Мікіта
І прыкінуўся, нібыта
Закахаўся да паўсмерці
і яго падбілі чэрці
Гэтак, нібы ў маладосці,
Праз акно залезці ў госці...
Каўбасой, вяндлінай, салам
Бабка госця частавала,
Бо дала нарэшце веры:
Сыдзе дзед за кавалера...
Значыць, выйшаў ён праз дзверы.

Байкар жыццёвую асіліў тэму,
Даказаўшы тэарэму.

## ТОСТ

Калі любімая Радзіма
Не для цябе складае гімн;
Калі каханая жанчына
У Сочы цешыцца з другім;
Калі няшчырасць сквапным вокам
Загляне раптам з-за дзвярэй;
Калі жыццё паверне бокам
І, быццам ліпку, абдзярэ;
Як словы праўды і настрою
Не адгукнуцца між людзей, -
Напоўнім келіхі напоем,
Каб не загінулі ў бядзе.

## ТВАРАМ ДА ВЕТРУ?

Да здравствует ветер, который в лицо!..

З *песні.*

Да ветру тварам садзяцца птушкі,
Слаце ў вочы глядзяць адкрыта...

*Кастусь Турко.*

Мы не птушкі - проста людзі,
Каб слату хапаць у грудзі.
Для цябе, мой сябручок,
Лепей вецер у бачок.
Я сабе любой хвілінай
Пажадаю ветру ў спіну,
А прайдохам і пачварам
Дзьмі, вятрыска, прама ў твары!..



## СПРЭЧКА Ў ЛЕСЕ

### *Байка*

У бары
Грыбы да часу, да пары,
Жылі, як добрыя сябры,
Хоць Падасінавік стары
Лаяўся бясконца
І выгаворваў жонцы:
І то ў яе не гэтак, і гэтае - не так!..
А тут яшчэ сынок-лайдак
Надзеў, дзесь падабраўшы шапку.
У крапінку, нібыта ў Мухамора.
- Вось умора, дык умора! -
Рагатала Бабка.
Ды цвяліў малечу Рыжык:
- Дзе купіў? Няўжо ў Парыжы?!
Падасінавік - у крык,
Бытта ўпіўся ў ножку цвік,

Прыстае з пагрозамі:
- Хай бы лепей Баравік,
Нават Падбярозавік!
Зноў з мяне смяецца бор:
Твой каханак - Мухамор!
- Што ты?! Анікому аніколі
Заляцацца да сябе я не дазволю!
Што, не верыш сваёй жонцы?..
- Плямы нават ёсць на сонцы!
Як паверу я табе,
Бессаромнай, у кляцьбе?!
... Сварку ў лесе дзень, два, тры
Чулі птушкі і звяры.
Слухаў кемлівы Масляк
І сказаў прыблізна так:
- Калі з жонкай муж не ладзіць,
Часта не ў гуморы,
То даб’ецца: тая здрадзіць
Нават з... Мухаморам.

## СПАТКАННЕ ПАД ДАЖДЖОМ

Сыпле з раніцы дождж,
Ды даволі густы,
Па тэорыі подласці, добра вядомай...
Я ж ужо да апошняе ніткі прамок
(Гэта ж трэба - ізноўку
не ўзяў парасона!)
А цікава мне ўсё ж -
захварэю ці не?..
Раптам бачу - праз дождж
Ты ідзеш да мяне!

*Генадзь Аўласенка.*

Пра каханне
І спатканне
Папрасілі ўласна, каб

Расказаў Аўласенка.
- Што казаць? - прамовіў ён. -
Я забыў свой парасон,
Дождж, з вядра нібыта, лье
І праходу не дае.
Пачакаў гадзіны з дзве:
Што ж Анжэла не ідзе?
Вымак да апошняй ніткі,
Хоць ізноў выкручвай світку.
Па законах подласці,
Холад аж у поласці.
Прыхаплю, бадай, прастуду
Альбо іншую зануду.
Дзе, Анжэлачка, ты? Дзе ж?..
З парасонам вунь ідзеш.
Пасміхаешся, здаецца?
Значыць, будзем разам грэцца!..



## РАСА І КАСА

***Скорагаворка***

На траве - раса,
А ў траве - каса.
Раса траву росіць,
Каса траву косіць.
Ападзе раса,
І ўцячэ каса.

## РАМАН

Выхвалялася Сюзанна:
- У мяне раман з Раманам!
Не службовы, а такі,
Што надоўга, на вякі...
Хлопец Сюзю ўвёў у зман -
І закончыўся раман.

## ПЕРАБОРЛІВАЯ



Мела Дуня,
Прыгажуня,
Як на пору стала,
Кавалераў
Да халеры,
Дый перабірала:

“Што ж, Сяржа -
Вельмі гожы,
Праўда, невысокі.
Каб Алёшу
Столькі грошай,
Колькі мае Фока.

Кажуць, Шурык
П’е і курыць,
Фрол - як праца ў святы,
Мабыць, Вася
Мне б і здаўся,
Ды не едзе сватаць..."

Выбірала,
Жартавала
Прыгажуня з форсам...
Хлопцы дзевак
Разабралі -
Засталася з носам.

Адзінока,
Як сарока,
Пражыла ці многа.
І нарэшце,
Ранкам веснім,
Стала перад Богам.

Бог - няміла:
“Не грашыла?

Розгамі не секлі?
І без дзетак,
Малалетак?
Значыць, месца ў пекле!..”

**ПЕГАС І ВЕРШЫ**

Як даехаў да Парнаса
І загледзеў лебяду,
Рассядлаў свайго Пегаса:
“Ат, у прозу лепш пайду!”
Надаела цётка Муза:
Прэч лячу, як на пажар.
Ды спыніцца ўсё-ткі мусіў,
Як крылаты конь заржаў.
Так жалобна, бы заплакаў,
Развярэдзіў мне душу.
... І, прысеўшы на канапе,
Вершы новыя пішу.

**ПАСТУШКА РЫФМАЎ**

Я сёння пастушка,
Я статак пасу!..
Пагутару з хваляй,
Кароў напаю,
Хай людзі пахваляць
За працу маю!..

*Раіса Баравікова.*

Вецер травы ледзь варушыць,
Я спяшаю нацянькі,
Бо сягоння я пастушка,
А скаціна ля ракі.
Напасу на травах ўсякіх -
Малако прыбудзе.

Як падояць, шчыра дзякуй,
Пэўна, скажуць людзі...
Не, удзячнасці не знала -
Больш камення, рыфаў...
Падрасла - і пасвіць стала
На паперы рыфмы.
І занятак гэты лепшы,
Чым пасьба атараў...
Надрукую нізку вершаў -
Маю ганарары.
Я даўным-даўно паэтка -
Кніжкі ёсць і слава:
Чытачы мне дораць кветкі,
Прэміі - дзяржава.

## ПАЖАР

### *Байка*

Невядомая прычына -
Хто падпаліў альбо акурак кінуў,
Але пажар каціўся па бары.
А ў гэты час стары,
Здзічэлы Сокал
Сядзеў высока.
Яму б гукнуць: "Ратуйцеся, звяры!"
Ды Сокал быццам анямеў:
Не ведаў ён, што скажа Леў.
Агонь звярыныя знішчае хаты,
Мурашкі гінуць, птушкі, звераняты...
"Чаму не папярэдзіў? - пытае грозна Леў.
Не мог ці не хацеў?!
Ты што тады, аслеп, аглух?!" -
"Убаў свой гнеў,
Вяльможны Леў, -
Сказаў ліслівы Сокал. -

Я чую мо за двух,
І вочы бачаць шчэ далёка.
Але прывык цаніць вышэйшых
Званнем.
Чакаў ад вас, мудрэйшы,
Указання...”
І так аддана паглядзеў, так міла,
Што Лёва злосць сваю змяніў на міласць.

Сягоння свой расказ вяду
Я пра чарнобыльскую страшную бяду,
Пра Сокалаў, каторыя чакалі,
Каб ім усё “наверсе” падказалі,
І ад таго, паверце, не прайгралі.

## ПАДЗЯЛІЎ

Меў Валерка
Дзве цукеркі,
А ў Ларыскі -
Ні ірыскі.
- Дай адну хоць,
Падзяліся! -
Не стрымалася Ларыса.
З’еў Валерка
Дзве цукеркі,
А Ларысцы
Даў паперкі.
- Ах, ты так?! -
І з той хвілінкі
Не сябруе з ім дзяўчынка,
А малюе дзіва-звера:
Хай укусіць ён Валеру!

## ОЛЯ З "ОПЕЛЯ"



Оля ў "Опеле" сядзела,
Праз акно на свет глядзела:
"Дзе адзіны мой, каханы,
Што навекі мне адданы?.."
Хлопцы з гонарам былі:
Паглядзелі - і пайшлі.
Оля ўслед і так і сяк:
- Гэй, куды патопалі?
Як не хочаце ўзяць так,
Дык бярыце з "Опелем"!
Хлопцы слухаць не хацелі,
Прытанцоўваючы, спелі:
"Оп-ля, оп-ля -
Зацвіла картопля!
Опа-ля, опа-ля -
Выйдзі, Оля, з "Опеля"!
Ты для нас не чужаніца:
Будзем разам весяліцца!.."

## НЮ



Любіць хлопцаў, шуры-муры,
Весялосць і валтузню.
У адзежы клічуць Нюра,
Без адзення - проста Ню.

## НА РЫНКУ

### *Байка*

Гэта быў звычайны рынак.
Гандлявалі, хто чым мог:
Хто стараўся збыць машыну,
Хто - салёны агурок.

Мяса, воблу, мандарыны,
І парэчку, і маліны,
Кроп, пятрушку, памідоры
І шыкоўныя ўборы.
Прыгажуня Ізабэла
Прадавала сваё цела,
А прафесар - галаву,
Што спраўлялася за двух.
У Панаса бралі мяса,
У Фядоры - памідоры,
У Паліны - апельсіны,
А ў Антошы - ягад кошык.
Ізабэла
Зранку ўмела
Прадавала ўжо двойчы цела.
Як ні сіліўся прафесар,
Галавы не змог прадаць...

Розум людзям гэтым часам
Не спатрэбіўся, відаць.



## МУЖЫЧОК З КУЛАЧОК

***Песенька***

Мужычок
З кулачок.
Зноў ідзе ў кабачок.
З гэтым - чок
І з тым - чок -
Дый прапіў пятачок.

За вуглом
Яго дом,
Жонка-гром
З памялом:
“Дзе хадзіў ты, урод?
Спаць ідзі ў агарод!”

Кабачок
Пад бачок
І заснуў мужычок,
А ў руках
У яго -
Малады бурачок.

Як пасціць
Мужычок
Пабрыдзе ў кабачок.
З гэтым - чок
І з тым - чок -
І прап'е... пінжачок.

## МУЖ ДЛЯ ПРЫНЦЭСЫ

Нечесаны, небриты и немыты,
Воняют табаком и перегаром,
Живут за женский счет, как паразиты,
И ничего не станут делать даром...
Возможно, мы с другими б лучше жили,
Но мы других, увы, не заслужили.

*Алена Жабінкаўская.*

Я - прынцэса на гарошыне.
Прынца клікала найлепшага,
А мяне тым агарошылі:
- Пойдзеш, дзеўка, за тутэйшага!
Што рабіць, дальбог, не ведала,
Недаступная, упартая,
Але мама мне паведала:
- Ты такога, мусіць, вартая...
Выйшла. Муж сям'ю "мацуе"
Тытунём ды перагарам,
Без ста грамаў не працуе...
Ой, гары, жыццё, ты гарам!

## МОЖА, ХТОСЬЦІ ДЗЕСЬЦІ КАЛІСЬЦІ

Можа, хтосьці дзесьці памірае,
Недзе ж радасна на свет глядзіць.

*Мікола Антаноўскі.*

Можа, дзесьці хтосьці камусьці
Не дагадзіў чамусьці?
А можа, сабе на радасць,
Нехта недзе некаму робіць гадасць?
Можа, хтосьці дзесьці канае,
А нехта другі нічога пра гэта не знае
І радасна на свет белы пазірае?..
О Божа,
Вершу Антаноўскага, можа,
І неазначальны займеннік дапаможа?..

## МІНІ-СПАДНІЧКІ І ПАЭТ

Ды ўрэшце зірнулі з хітрынкай
Каленькі
на белы свет…
Не месца тут кіслай міне.
Як сам сабе ні мані,
А ножкі ў спаднічках-міні
Ты паспрабуй абміні.
Здаецца,
сяджу на міне.
Тралейбус у космас ляціць…

*Рыгор Барадулін.*

Тралейбус, бы ў космас, на лініі
Ляціць, а навокал - вясна.
Не можа быць з кіслаю мінай
Паэт, як жанчына ў міні.
Асою "кусае" адна:

“Чаго гэтак вылупіў зенькі,
Нібыта дзяцюк, хоць і дзед?
Няўжо век не бачыў каленькаў
З хітрынкай у вабных кабет?!
Гатоў зазірнуць і пад міні
А волас сівы ў барадзе...”
Паэт наш сядзеў - як на міне:
Не знаў, куды вочы дзець.
Сакрэт, раскрываючы трошкі,
Сказаў ён жанчынам: “Калі
Паэт паглядае на ножкі,
Каб славіць жыццё на Зямлі!..”

## МАРЫ ПРАВІНЦЫЙНАГА ПАЭТА

... Моўчкі птахі збіраюцца ў вырай,
І запіў правінцыйны паэт.
Ён пра славу і гонар не марыць,
Пазіраючы зрэдку ў акно...

*Аляксей Ганчук.*

Адлятаюць птахі на зыходзе лета.
Думае Алёша, гледзячы ў акно:
“Правінцыйным называеце паэтам -
Значыць, дайце грошай на віно!
Адмаўляць ці маеце вы права?
Надрукуйце верш, нібыта дар.
Ні павагі не прашу, ні славы -
Выпішце маленькі ганарар!
Мусіць, на загаданую тэму
Напісаць тады змагу паэму.
Прачытае, веру, белы свет
Ронда, і тарцыну, і санет.
А пакуль у вас прашу адно:
Дайце, браткі, грошай на віно!..”



## ЛЕКТАР

### *Байка*

У недалёкі час,
Калі было прамоўцаў шмат у нас,
Адзін заўзяты Лектар
Даказваў людзям, нібы дзецям,
Як цяжка жыць у буржуазным свеце
І што савецкая душа
Не бачыць добрага ані шыша
У тым, як там жывуць, у іхніх ЗША.
Стараўся, заваладаў залай,
Што людзі ледзь-ледзь не рыдалі,
Свае праклёны буржуінам пасылалі.
А Лектар, як апошні аргумент,
Сказаў: “У гэты саменькі мамент,
У гэты міг,
Як дзень у нас і жыта пазалота,
У іх —
Ноч цёмная, дажджы і слота...”
Тут паднялася дружна зала.
“Так ім і трэба! - пракрычала. -
Хай толькі ў нашых радасных людзей
Заўсёды будзе ясны дзень!
А ім - дык дастаткова й ночы!.."

Ды не заўсёды так бывае, як мы хочам.



## КУМА

### *Прыпеўкі*

Кумка, борздка паскачы,
Атрымаеш калачы.
Будзеш, як бабуля,
Дык з’ясі цыбулю.

Скача весела кума,
П’яная ў сцельку:
“Я баюся спаць сама:
Кум, хадзі ў пасцельку!”

Што ж ты, кумачка-кума,
Зводзіш хлопцаў з розуму?
Як гарэлкі больш няма,
Дык памрэм цвярозыя?

“Ці ж я, кумка, абібок,
Што не заўважаеш?” -
“Не, табе, мой куманёк,
Аднаму маргаю!..”

“Ты з кумою, мой сусед,
Нават незнаёмы?
Налівай віна як след
І вядзі ў салому!..”

Скажам “дзякуй” мы таму,
Хто прыпеўкі слухаў
Пра пяшчотную куму,
Кумку-весялуху.

## КРОТ-ВАРТАЎНІК

### *Байка*

Пасадзілі агарод
І звяры, і птушкі.
Падраслі капуста, кроп,
Агуркі з пятрушкай.
“Каб не кралі цераз плот,
Нельга нам без варты, -
Парашыў лясны народ. -
Хай пільнуе грады Крот.
Пакажы, што варты!..”

Крот - даведку: “Я ж, сябры,
Бачце - слепаваты...”
Не даслухаўшы, звяры
Падаліся ў хаты.
Збудаваў сабе жытло
Крот каля разоры...
Мышы ўсё, што тут расло,
Пацягалі ў норы.
Пяцьдзесят не менш прыблуд
Нарабілі стратаў.
... Вырак вынес строгі суд,
Каб Крата - за краты!

Як аб’явіць патрэбна пакаранне,
Шукаюць “крайніх”.
А часта тыя, хто крадзе,
Жывуць, як вош у барадзе.

## КАЎЧЭГІ

Нібыта петлі, душаць чэргі,
Спагады, ласкі анідзе.
Будуюць хаты, як каўчэгі, -
Уратавацца б ад людзей!
І грозяцца: “Дамы, як вежы,
Сабакі, зброя - да ўсяго.
Як прыйдуць нас паліць і вешаць,
Яшчэ паглядзім- хто каго!”
Не дай Бог варварскіх набегаў,
Бо колькі згіне без віны!
Не выратуюць і “каўчэгі”,
Калі не Ноевы яны.

## КАМАР

***Байка***
***(Паводле Альбіна Дзяконскага)***

Як леў сканаў, хто перамог? Камар.
“Ну, вось ён і памёр, - гудзеў “званар”. -
Драпежнік дужы быў, а зараз нерухомы,
Ды жыў бы, каб не вёў вайны са мной, вядома.
Казаў жа слухацца і не кідацца ў зваду...
Дык хто ў мяне сягоння вырве ўладу?”
Мяркуйце самі:
Як мруць ільвы,
дык камароў мы выбіраем каралямі.

## ІМЁНЫ



Хоць імёнаў
І мільёны,
А адно - найдаражэй:
Можа, Галя,
Можа, Валя, -
Хто прывабней і бліжэй.

У Людмілы,
Люды мілай,
Позірк - светлая вясна.
Слова “Ніна”
Знаць павінны:
Сёння “ні”, а заўтра “на”.

Любіць Зіна
З лімузінам -
Тут пачуцці цераз край,
А дзве Тоні -
Па дзве тоны,
Хоць ты сваі забівай.

Як ля Соні
Будзеш сонем,
Прэч прагоніць, засмяе.
Прыме Света
І без кветак,
Губы-слодач у яе.

Іры, Раі,
Ліды, Маі
Побач ходзяць па зямлі.
Без іх ласкі
І падказкі
Як на свеце мы б жылі?..



## ЗДРАДА

Весной скворец
Мне изменил...

*Лявон Валасюк.*

Гожай, моцнай і шыкоўнай
Выйшла Лёнева шпакоўня.
Думаў ён: прыбудзе шпак,
Прыжывецца ў ёй. Аднак
Шпак жытло сваё агледзеў
І падаўся... да суседзяў.
Шляхам, мовіць так, прамым
Да шпачыхі. У прымы.
Гаварыў яму - не слухаў,
Што там хата-развалюха,
Што не створана ўмоў,
Каб расціць дачок, сыноў.
Шпак спявае звонка летам
І гадуе сваіх дзетак,
А Лявон - бы ў кругаверці:
Пастараліся мо чэрці
Дружбу са шпаком разладзіць,
Загадаўшы яму... здрадзіць.

## ЗАЙ І “МЕРСЕДЭС”

Зай спяшаўся цераз лес,
Бачыць: плача “Мерседэс”,
Сярод дрэў стаіць адзін:
Можа, скончыўся бензін
Альбо ў лесе заблудзіў?
Зайка крыкнуў на бягу:
“Едзь за мной - дапамагу!”
Шпарка мчаўся даўганогі,
Але вывеў на дарогу
“Мерседэс” пацiснуў лапу
І сказаў з паклонам: “Дзякуй!”

## З ПТУШЫНАЙ МОВАЙ

Пешчу любасцю палетак
І - пакуль не пастарэў -
Вывучаю мову кветак,
Мову птушак, мову дрэў...
Гаварыць з зязюляй чынна,
Як з вяшчунняю гатоў:
Не скупіся, налічы мне
Хоць бы нейкіх сто гадоў...

*Пятрусь Макаль*

З барадою адмысловай -
Дзевяноста дзевяць год,
Мне з птушынай дзіўнай мовай
Ані гора, ні турбот.
З мовай дрэў і траў утульна,
А з людской - ні “но”, ні “тпру”,
А таму часцей з зязюляй,
Чым з каханкай гавару.
А яна мне: “Петрусёк,
Пажыві яшчэ гадок!
Сваіх праўнукаў пагушкай
І ўсім чыста дакажы,

Што цудоўна з мовай птушак
На зямлі свой век пражыць..."
Не жанчыну, а палетак
Пешчу: мусіць, пастарэў...
Не забыць мне мовы кветак,
Мовы птушак, мовы дрэў.



## ЖЫЦЦЁ З КОБРАЙ

Спытаюць у паэта: "Як жывеш?"
Сябрам адкажа без сумніву: "Добра!"
А сам жыве ў адной кватэры з кобрай:
Ёй, як труса, кідае зрэдку верш.
З'ядае на пяту, і зноў грызе,
Пілуе ўмела, шыю мыліць.
Не агрызаецца, хаця і мае сілу,
Бо лічыць: так жывуць усе!
З гадамі сам ужо не леў -
Цяжэй пісаць ад лета к лету...
Не ведае, ці стаў бы ён паэтам,
Каб жонкі гэтакай не меў.

## ЖУРНАЛІСТ І ПІСЬМЕННІК

- Калі пісьменнік у значэнні "шмат пішу",
Тады "карэспандэнт" ад слова, мабыць, "кар",
Бо мушу прадаваць штодзень сваю душу
За невялічкі журналісцкі ганарар.

- А я пішу аб тым, што ляжа на душу,
З натхненнем я - і раб, і гаспадар.
Ніколі я, ніколі не схлушу,
Ніколі не спаганю Божы дар.
Прыбегну к мове той, якой пісаў Эзоп,
Як праўду людзям расказаць я не змагу...

- Які з мяне Эзоп? Я больш... я больш халоп,
Сабака на жалезным ланцугу.

## ЁЛКІ-ПАЛКІ



Ёлкі-палкі, ёлкі-палкі,
Ходзяць хлопцы за Наталкай.
Пасля іх прызнанняў палкіх
Ад Наталкі -
Толькі палкі.

## ЕЎТУШЭНКІ ЎСЮДЫ ЁСЦЬ!



И бабка Ганна сказала:
“Ды я гавару не аб радне па прозвищу -
аб радне па душе.
И кали дзе-нибудь -
у Америцы ци у Африцы
ёсць добрыя люди, -
мне здаецца -
яны усе Явтушенки...
И ты не стамляйся
шукать радню по белому свету”.

*Яўген Еўтушэнка.*

Жэня ў Афрыку заехаў
І ў Амерыку не раз.
На прагулку ці з пацехі?
Не, каб выканаць наказ
Бабы Ганны. Нават полюс
І пустыні не мінаў,
Еўтушэнкаў след і голас
Між пустэчы адшукаў.
Жыў у чукчаў і эвенкаў...
З бабкай стрэнуцца калі,
Скажа ёй, што Еўтушэнкі
Ёсць усюды на зямлі.
Сеюць жыта, пішуць вершы,
Не пакінуць у бядзе...
Еўтушэнка - значыць, першы,
Лепшых не знайсці нідзе!




## ДЖЭНІНА ДЖАЛА

Людзі Джэні клічуць джалам:
Жаліць Джона дзе папала!
На ўсе толкі-крыватолкі
Джон смяецца: “Добра з пчолкай
Жыць, сваволіць: не распуста!
Пахнуць мёдам Джэні вусны!”




## ДЗІВАКІ

Кажуць, зранку па расе
Дзед Яўсей
Гусей
Пасе.
Не пасе, а спіць Яўсей.
Гусі ўсе даўно ў аўсе.
Прачынаецца пастух,
Каб сагнаць гусей на луг.
А яго сусед Яўмен
З крамы прыцягнуў бязмен,
Хоча зважыць куль мукі,
Ці не з’елі пацукі.
Пераважыў на бязмен,
Рад Яўмен:
Мука без змен.
Трэці дзед-дзівак Алесь
Ходзіць з вудай часта ў лес.
А чаму не да ракі,
Дзе жыруюць шчупакі?
Проста верыцца Алесю,
Што калісьці ўдасца ў лесе
На кручок злавіць дзіка,
Барсука
Альбо ваўка.

Ёсць пытанне ў хлапчукоў:
- Дзе знайсці такіх дзядкоў?
- У пасёлках, гарадах,
На далёкіх хутарах,
Там, дзе леглі бальшакі,
Каля мора, ля ракі
Вас сустрэнуць дзівакі.



## ДУЭЛІ

Дуэлі, кажуць, больш не ў модзе.
Забыць пра іх нам часта раяць.
Як адказаць таму, хто годнасць
і чалавечнасць папірае?!
Калі няшчырасць шчэрыць зубы,
і не памёр яшчэ Малчалін,
II праўду зноў вядуць на згубу,
Калі агортвае адчайнасць,
Калі губляецца дарога,
Што з тупіка вяла спачатку, -
Тады так хочацца пад ногі
Мне махлярам шпурнуць пальчатку.

## ДАПАМОЖАМ ШЧУПАКУ

Без прынады, проста так,
Трапіў на кручок шчупак.
Стала млосна шчупаку,
Як пакінуў ён раку,
Дзе падводны ўвесь народ
Дружна водзіць карагод.
Дапаможам шчупаку:
Кінем зноў яго ў раку,
І насельнікі вады
Разбягуцца - хто куды...



## ГРОШЫ, РОЗУМ І СУМЛЕННЕ

### *Байка*

Ішлі аднойчы па дарозе
Сумленне, Грошы, з імі - Розум.
Кружыла снежная завея,
А на прытулак - аніякае надзеі...
Аж бачаць: ля дарогі - дом.
Зайшлі: вячэра, людзі за сталом.
Прызналі ўсе адразу Грошы,
За стол саджалі: “Просім! Проша!”
Астатніх са двара прагналі,
Каб не заміналі...
Хадзілі доўга па марозе,
Пакуль Вучоны не паклікаў Розум.
А той - Вучонаму: “Вазьміце і Сумленне!”-
“О не, бо з ім адно мучэнне!..”
Пайшло Сумленне і ў знямозе
Заначавала пры дарозе.

Давайце глянем
На жыццё цвяроза:
Калі на першым плане
Грошы, а не розум.
І на апошнім - будзе ў нас сумленне,
Якім наступнае чакаць нам пакаленне?..

## ГАРАГЛЯД ЦІ ДЗЯКАВА?

### *Эпіграма*

Гарагляд на хутары Паўлінава
Прыглядалася да гора ўсялякага...
Падрасла і з новаю радзінаю
Стала называцца Нінай Дзякавай.
Бо дзячкі ўсё ж на зямлі
Лепей елі ды жылі.

## ВЯСНА “СТАВІЦЬ” МАТ



Весна неумело,
Споткнувшись,
Выругалась вдруг...

*Лявон Валасюк.*

Лявон Вясну пад руку вёў старанна.
Дарога бегла ўніз - няроўнасці, пакат.
Як спатыкнулася гарэза, нечакана
Сарваўся з вуснаў у яе такі адборны мат,
Што вушы ў мужыка ажно завялі...
“Ото Вясна! - падумаў раптам ён. -
Мо кінуць лепш яе, пайсці да Галі?”
- Прабач мне, калі ласка, мой Лявон! -
Прамовіла Вясна. - Хоць слоў багата,
Ці ў хвілю цяжкую сам абыходзішся без мата?..
Лявон пачырванеў, збянтэжыўшыся трошкі,
Бы мат сапраўдны атрымаў ля шахматнае дошкі.

## ВЕРАБЕЙ-ЗЛАДЗЮЖКА

Верабей пад стрэшкаю: “Чык-чырык!”
А яму галаваньку: чык-чырык!
Гаспадар зласліва гаварыў:
- Не чапай чужога,
не бяры!..

## БЯРВЕННІ З ДУШЫ



Да раніцы ў цішы
У светлым задуменні
З бароў сваёй душы
Тралюю слоў бярвенні.

*Леанід Дайнека.*

Не душа, а, Божа мой,
Бор густы ў Дайнекі.

То сякерай, то пілой
Робіць ён прасекі.
Покі дрэмлеце ў цішы
Ў светлым задуменні,
А пісьменнік, знай, з душы
Цягне слоў бярвенні.
Не на дачу альбо зруб
Лазні самай лепшай -
Леанід збывае з рук
То раман, то вершы.
У яго ж усё на “яцьˮ
(Не даеце веры?).
Хіба столькі напісаць
Мог бы без паперы?
Нагрузіў бярвенняў МАЗ -
Рук сваіх не чуе.
На раман каторы раз
Дрэвы ён тралюе.

## БАБЫЛІ

### *Байка*

Боб, Бабёр і Баабаб
Балабонілі пра баб.
Боб сказаў: “Узяць Фасолю,
Дык баршчы яна не соліць!ˮ
Хоць Бабру Бабрыха люба,
Ды баіцца, быццам згубы,
Бо паводзінаў не строгіх
І Бабру наставіць рогі.
Баабаб не быў адзіны,
Хто кахаў калісь Рабіну.
Зараз вучыць Баабаб:
“Не пускайце к сэрцу баб!ˮ

Папляткараць бабылі,
А жывуць, як і жылі.

## АСЦЮКІ



### *Байка*

Кірыла на таку
Старанна з братам жыта малаціў:
Снапы развязваў, цэпам біў,
Пакуль
Кашулю не набілі асцюкі.
Яны сябе там добра пачувалі,
Малацьбітоў аж да касцей даймалі.
“Дапамажы іх выкінуць, Якім!” -
Прасіў Кірыла брата.
“Дарма ўсё: іх тут так багата!..”
Кашулю зняў тады Кірыла
Ды аб вушак - штосілы.
І паляцелі асцюкі
Ва ўсе бакі.

Бывае часам госць такі,
Што нізавошта не пакіне сяброў дом,
Хоць выганяў яго сілком.

## АМФІБРАХІЙ

Эх, напісаць бы вершы амфібрахіем
(Грашу ім, далібог, я вельмі мала),
Каб расказаць, як прадстаўніца мафіі
Прысела на хвілінку і сканала;
Як прыбягалі, прыязджалі звечару,
Гармідар не сціхаў ажно да рання,
Бо кожнаму хацелася засведчыць
і прыналежнасць, і сваю адданасць;
Як на магіле слыннай мафіёзі
Сказалі столькі слоў высакародных,
Ліліся кракадзілавыя слёзы,

Хаця балюча было толькі блізкім, родным.
Не вывесці, на жаль, мясцовай мафіі,
Грамадства па-ранейшаму хварэе.
... Не пішуцца штось вершы амфібрахіем,
А ўсё часцей ці ямбам, ці харэем.

## АЛАДКІ

Смачны пах стаіць у хаце:
Ля пліты - бабрыха-маці,
А дзіцяткі-бабраняткі
За сталом ядуць аладкі.
- От, жуюць, жуюць старанна!
Шчокі, нос даўно ў смятане.
Апетыт чаму такі?
- Бо з пшанічнае мукі, -
Дадалі: - Аладкі ж нашы
Лепей, чым з бярозы каша!..

## АЗБУКА НААДВАРОТ

- А чаму не з “а” да “я”? -
зашумеў народ. -
Значыць, азбука твая -
бы наадварот?!
Азбука не школьная,
крышачку куслівая,
Дзе-нідзе свавольная -
толькі не санлівая.
Прачытаў няспешна я,
наматаў на вус:
Век жыві з усмешкаю,
братка беларус!

*ДЗЕЙНЫЯ АСОБЫ:*

Аўтар.
Аўдоля.
Хвядос.
Палашка.

## ***КАРЦІНА ПЕРШАЯ***

Аўтар.

Для Аўдолі
З горкай доляй
Болей радасці ніколі.
Ані песні ў будзень, свята -
Без мужчыны моўкне хата.
Гэтак удава рашыла,
Як прамер яе Даніла.

*Зімовы вечар. Аўдоля на кухні. На стале гарыць лямпа. На пліце стыне вячэра. Яшчэ маладая, чарнявая, чырванашчокая Аўдоля вышывае ручнік.*

Аўдоля.

Хутарок далёкі ад людзей,
Аніхто сюды зімой не забрыдзе.
І навошта я гатую кожны дзень,
Калі ежа ў рот не лезе, не ідзе?..

*Уздыхнуўшы, апускае твар ніжэй над ручнікам, нявесела пяе:*

Ото ж доля
для ўдавіцы:
Хоць у полі...
удавіцца
Альбо ў лесе,
на бярозе...
Ані песень -
толькі слёзы.

*Выцірае слязу, далей гаворыць:*

Ох, Даніла, мой Даніла,
Без цябе і свет не мілы!
Хутар без цябе чужы,
Хоць у белы свет бяжы.
Бога век вяком маліла б,
Каб з'явіўся тут Даніла...

*Чуецца стук у дзверы. Аўдоля ацепваецца, падазрона глядзіць на ўваход. Дрыжачым голасам:*

Хто там?

*Уваходзіць незнаёмец у кажусе і шапцы-вушанцы.*

Ой, чужы мужчына!

Хвядос *(вітаецца):*

Добры вечар, гаспадыня!
Не пужайся. Я - Хвядос,
Злосці ў хату не занёс.
Цэлы дзень быў на марозе,
Заблудзіўся я ў дарозе.
Дзякуй, што святло ў акне
Прывяло сюды мяне...

Аўдоля.

Як з дабром, кажух скідайце,
Да стала бліжэй сядайце.
Каб сагрэцца, знойдзем чарку,
На пліце ўжо стыне скварка.
Грэх ад Бога і людзей
Гнаць было б у ноч завей...

Хвядос.

Як завуць вас, маладзіца?

Аўдоля.

Я - Аўдоля. Удавіца.

*Хвядос здымае вушанку, кажух, сядае на ўслончык. Аўдоля ставіць на стол пляшку гарэлкі, вячэру. У акно мяцеліца кідае снегам.*

Аўдоля.

Ну й мяцельны сёння вечар!..

Хвядос *(узнімае чарку):*

За сустрэчу!

Аўдоля *(чокаецца з ім):*

За сустрэчу!..

Хвядос.

Ой, суседачка мая,
Маладзенькая,
А гарэлачка твая -
Саладзенькая!

Аўдоля *(падазрона):*

Ты чыю гарэлку п’еш?
І аб кім цяпер пяеш?

Хвядос.

Я пра вас спяваю толькі,
Чарнавокая Аўдолька!
Год назад памерла Зося,
Але роўнай не знайшлося.
Хоць скажу вам: бачыць Бог,
Абышоў мо сто дарог.
Добра, што зайшоў на хутар...

Аўдоля *(разумее яго і, саромеючыся, перабівае):*

Хведзька, мусіць, баламут ты?.

Хвядос.

Далібог, я не хлушу:
Бачу блізкую душу!
Я ўдавец, прызнацца мушу...

Аўдоля *(радасна пляскае ў далоні):*

Божа, роднасныя душы!
Мо за гэта вып’ем чарку?..

Хвядос *(падтаквае):*

Варта выпіць, з’есці скварку.
Падпіўшы, пяе:
Маладзіцу абдымае маладзец,
Удавіцы кветкі дорыць удавец.

*Зноў гаворыць:*

Яне ведаю цябе.
Раскажы лепш пра сябе!

А ў д о л я .

Танчыць змоладу любіла,
Але ўсё забраў Даніла.
Гэты хутар мне нямілы:
Адабраў ён столькі сілы!
Нават дня мне не хапала,
А бывала, а бывала…

*Успамінаючы, уздыхае, але ў наступную хвіліну смяецца, падскоквае з услона, рукі ў вокі, спявае, прытанцоўваючы:*

Мне казала маці ўранку:
“Не хадзі на пагулянку:
Там ля дзевак хлопцы ўюцца,
Падмануць і пасмяюцца!”
А я хлопцаў не баюся:
На гулянках весялюся.
На гулянках весялюся,
Бо я хлопцаў не баюся!
Помню, мама днём казала:
“Не хадзі на карнавалы:
Там не хлопцы - толькі маскі -
Не чакай дабра і ласкі!”
А я масак не баюся:
Разам з імі весялюся.
Разам з імі весялюся,
Бо я масак не баюся!
Мне казала мама ўвечар:
“Не збірайся на сустрэчу!
Хлопец гожы пасваволіць -
Прынясеш дзіця ў падоле!”
А я дзетак не баюся,
З гожым хлопцам весялюся.

З гожым хлопцам весялюся,
Бо я дзетак не баюся!..

Х в я д о с *(даўно ўжо танцуе разам з Аўдоляй, падпяваючы ёй, а то сам заспяваў частушку):*

Хай снягі, хай дажджы,
Маразы хай лютыя -
Да каханак пабяжым
Босыя й абутыя!

А ў д о л я *(ківае пальцам):*

Ніякой цяпер каханкі -
Застаешся ў хутаранкі!

Х в я д о с .

А Аўдоля
Мне дазволіць?..

*Тая загадкава пасміхаецца, нічога не гаворыць, але Хвядос разумее яе і клянецца:*

Не збягу, дальбог, ніколі!

А ў д о л я *(нараспеў):*

Напілася я, наелася,
Дый на ложак захацелася...

*Закідвае рукі за галаву, прыкідваецца п'янай:*

Ох, ох! За-ха-це-ла-ся...

Х в я д о с *(адзін):*

Удавіца смелая
І ў рабоце ўмелая!
Хто мне дапаможа і парадзіць,
Як з Аўдоляю прыгожаю паладзіць?..

*Складае недавышыты ручнік, тушыць лямпу і ідзе ўслед за Аўдоляй.*

***ЗАСЛОНА.***

## *КАРЦІНА ДРУГАЯ*

А ў т а р .

Наступіў нарэшце ранак.
Паплылі за вокны сны.
Сонца ў спаленьку глядзіць.
Ну, давай і мы заглянем,
Ці паладзілі яны?
О, яшчэ тут хтосьці спіць!..

*Ложак разасланы. Аўдоля толькі-толькі расплюшчыла вочы.*

А ў д о л я .

Ты прабач... прабач, Даніла,
Што другі зрабіўся мілым!
Ён вясёлы, дужы, добры, -
Выбар мой і ты б адобрыў...

*Глядзіць на суседнюю падушку, дзе павінна быць Хвядосава галава. Там... пуста.*

Што, Хвядос уночы збег, -
А дзе ж "дзякуй" за начлег?!

*Устае, апранаецца. Глядзіць на стул, куды звычайна кладзе свае ўпрыгожванні. І там - пуста.*

Завушніцы дзе? Пярсцёнкі?
Павалок няўжо да жонкі?
Значыць... значыць, не ўдавец,
Але ў ложку - ма-ла-дзец!

*Салодка пацягваецца. З абярэмкам дроў заходзіць Хвядос.*

Х в я д о с .

Наклаў я зранку дроў,
Каб твой дом не ахалоў...

А ў д о л я *(неадрыйна глядзіць на яго, яшчэ не верачы, што Хвядос тут, пытае не да месца):*

Што, Хвядосе, для красы
Адпусціў сабе вусы?

Хвядос *(кладзе ля печкі дровы. Важна):*

Не, мужчынская краса -
Гэта сошка ды каса!

Аўдоля.

Веру, Хведзька, не лядашчы,
І жанок умееш лашчыць:
За бачок ушчыпнеш
Ці ля вуха казытнеш.
Не балюча, а салодка!..

Хвядос *(убок):*

Апетытная малодка!

*Праз хвіліну:*

Ну, як спалася, Аўдоля?
Пракляла мяне і долю?

Аўдоля.

Бачыць Бог, але Аўдолька
Не кляне цябе нікольки...
Я шукаю завушніцы,
Дзе яны маглі згубіцца?
Ні на стуле, ні на печы...

Хвядос.

Распранаючыся ўвечар,
Завушніц, пярсцёнкаў жменю
Ты паклала мне ў кішэню.

Аўдоля *(без злосці):*

Загубіла баба памяць!

*Здагадліва смяецца:*

Вінавата ў гэтым замець...

Хвядос (у *такт):*

Праўда, замець вінавата:
Прывяла да гэтай хаты...

А ў д о л я *(глядзіць у акно):*

Снег чаго Палашка месіць?
Не была, здаецца, месяц.

Х в я д о с *(падышоў да Аўдолі. Насцярожана):*

Што ёй трэба? Хто такая?!

А ў д о л я .

То Данілы братавая.
Як нячыстая прынесла!

*Уваходзіць Палашка, ледзь не да вачэй закутаная хусткай.*

П а л а ш к а *(да Аўдолі):*

Здраствуй! З вечара мяцець,
Што рашыла паглядзець,
Ці твой хутар не занесла?

*Заўважае Хвядоса:*

Бач, у хаце мужыкі!

*Адразу - як допыт:*

Скуль узяўся? Хто такі?!

А ў д о л я ( з а *Хвядоса, насмешліва):*

Не хвалюйся: ён адзін,
І не брат мне, і не сын.

П а л а ш к а .

Брата ведаю сама,
Дзетак у цябе няма.

Х в я д о с *(разумее, што лішні):*

Вам, сваячкі, гаварыць,
А мне трэба пакурыць!

*Бярэ цыгарэты і выходзіць.*

П а л а ш к а .

Хто такі?

А ў д о л я .

Завуць Хвядос.
Снег сюды пад ноч занёс.

П а л а ш к а *(насмешліва):*

Во знайшла! Бусліны нос,
А вусы, як у ката, -
Сме-ха-та!

*Робіцца зноў сур'ёзнай:*

Не асела і магіла,
Як забыла пра Данілу?..

А ў д о л я .

То хварэў… Зусім не стала,
А ты кажаш: часу мала?
Знаеш: весці гаспадарку
Бабе - добрая прыпарка!
Я сама ару, кашу.
А калі каго прашу,
Дык нясу рублі і пляшку.
Не паняць табе, Палашка,
Што адна я кожны дзень,
Быццам бы трухлявы пень.
Перакінуцца з кім словам?..

П а л а ш к а *(устаўляе сваё):*

Ох, жанчыны пазласловяць!

А ў д о л я .

Ну і хай! Яны не ўказ!
Чым я горшая за вас,
Што жыву без мужа, дзетак,
А раблю зімой і летам?!

П а л а ш к а *(не можа пераканаць Аўдолю і злосна крычыць):*

Раскажу свайму Валодзю,
Што з нядаўніх пор
Ужо хахаляў прыводзіш
Ты на бацькаў двор!..

А ў д о л я .

Тут маёй няма работы?!
Столькі поту! Столькі поту!.

*Амаль крычыць:*

Ну, бяжы, хутчэй бяжы!
І кажы, усім кажы!
Толькі носа ў мае справы не кажы!..

*Палашка выбягае. Праз хвіліну заходзіць Хвядос.*

Хвядос *(пасмейваючыся):*

Здагадацца можна:
Гаварылі "асцярожна"!

*Пра Палашку:*

Быццам ветрам панясло!

Аўдоля *(роспачна ківае галавою):*

Абгавор на ўсё сяло!
Толькі мне не страшны плёткі,
Калі побач ты, Хвядотка!

*Прыціскаецца да грудзей:*

Бог цябе сюды прынёс,
У нялёгкі бабін лёс…

Хвядос.

Чарнавокая Аўдоля,
Веру мне паслана доляй!
Будзем жыць, араць і плесці,
Гаспадарку разам весці…

Аўдоля і Хвядос *(развесяліўшыся, двойчы спяваюць):*

Будзем разам дружна жыць,
Шчасцем нашым даражыць!..

Аўтар.

Бусел (можа, вам вядома?)
Пасяліўся ў іх на доме,
Сына к восені прынёс -
Рады жонка і Хвядос.
Ані крыку, ані сваркі:
Разам ладзяць гаспадарку.
Для людзей адкрыты дзверы.

Хто не верыць, хай праверыць!
А Палашка не бывае:
Значыць, зло пакуль трымае.
... Гэтым я закончыць мушу
Сказ пра роднасныя душы.

***ЗАСЛОНА.***

Літаратурна-мастацкае выданне

Бензярук Расціслаў Мацвеевіч

АЗБУКА НААДВАРОТ
Гумар і сатыра

Рэдактар *А. Р. Бензярук*
Камп’ютэрная вёрстка *Н. Я. Фіцнер*
Дызайн вокладкі О. *М. Хвалько*
Карэктар *Н. Р. Баброва*

Падпісана да друку 04.11.2008 г. Фармат 60x84 1/16.
Папера афсетная. Гарнітура «Арыял». Рызаграфія.
Ум.-друк. арк. 3,49. Ул.-выд. арк. 1,01.
Тыраж 50. Заказ 5510.

Выдавец і паліграфічнае выкананне:
прыватнае вытворча-гандлёвае унітарнае прадпрыемства
«Издательство “Альтернатива”».
ЛИ № 02330/0131883 ад 04.12.2006.
ЛП № 02330/0131687 ад 26.10.2006.
Пр. Машэрава, 75/1, к. 312, 224013 г. Брэст.